ТЭЛЕПРАГРАМА НА ТЫДЗЕНЬ

№180 (1993)
Субота, 25 верасня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +9...+11, уначы — +6...+8, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +11...+13, уначы — +7...+9, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +10...+12, уначы — +7...+9, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +10...+12, сонечна, уначы — +6...+8, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +8...+10, дождж, уначы — +7...+9, дождж; у Магілёве ўдзень — +10...+12, без ападкаў, уначы — +6...+8, дождж.

*www.meteo.by*

ПУЛЬС

## Міхаіла Марыніча падводзяць пад суд?

Вядомаму беларускаму палітыку і грамадскаму дзеячу Міхаілу Марынічу прад'яўлены два новыя абвінавачанні — па ч. 2 арт. 377 (крадзеж або пашкоджанне дакументаў, штампаў, пячатак) і па ч. 4 артыкула 210 (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, учынены арганізаванай групай або ў асабліва буйным памеры) Крымінальнага кодэкса Беларусі. Пра гэта паведаміла адвакат Марыніча Вера Страмкоўская.

Яе падабаронны, у прыватнасці, абвінавачваецца ў крадзяжы дакументаў, якія нібыта ўяўляюць дзяржаўную тайну, а таксама ў завалоданні аргтэхнікай, якая была бязвыплатна перададзена ў часовае карыстанне грамадскай арганізацыі "Беларуская асацыяцыя "Дзелавая ініцыятыва", якую ўзначальвае Марыніч.

Нагадаем, што раней Міхаілу Марынічу было прад'яўлена абвінавачанне па ч. 2 арт. 295 (незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў) Крымінальнага кодэкса.

Паводле слоў В.Страмкоўскай, прад'яўленне двух новых абвінавачанняў стала для яе падабароннага поўнай нечаканасцю. М.Марыніч, паведаміла яна, на пастанове напісаў свой пратэст і адмовіўся даваць паказанні, паколькі лічыць, што гэтыя дзеянні "маюць палітычны матыў" і маюць на мэце не дапусціць яго ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах 2006 года.

Адвакат нагадала, што 26 верасня заканчваецца тэрмін утрымання М.Марыніча пад вартай. Аднак яго, хутчэй за ўсё, працягнуць, паколькі вылучанае палітыку абвінавачанне па ч. 4 арт.210 з'яўляецца цяжкім, і санкцыя па ім прадугледжвае тэрмін пазбаўлення волі ад 7 да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Нашага міністра пачуюць у Нью-Йорку

29 верасня міністр замежных спраў Беларусі Сяргей Мартынаў выступіць падчас агульнапалітычнай дыскусіі на 59-й сесіі Генеральнай асамблеі ААН у Нью-Йорку.

Як паведаміў прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных, беларуская дэлегацыя на чале з Сяргеем Мартынавым адправіцца ў Нью-Йорк 27 верасня.

Агульнапалітычная дыскусія з'яўляецца адным з асноўных этапаў працы Генеральнай асамблеі, падкрэсліў прэс-сакратар. Сёлета ў ёй бяруць удзел каля 90 кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў і больш за 100 міністраў замежных спраў.

Беларускі міністр у сваім выступленні выкладзе падыходы Беларусі да вырашэння асноўных праблем міжнароднага супрацоўніцтва, значную ўвагу надаўшы барацьбе з тэрарызмам, пытанням актывізацыі дзейнасці Генеральнай асамблеі ААН, рэфармавання Савета Бяспекі, а таксама неабходнасці ўліку ў дзейнасці ААН спецыфічных праблем краін з пераходнай эканомікай.

**Андрэй СЕРАДА.**

## Экс-міністра абароны зьнялі канчаткова?

Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў пакінула ў сіле рашэнне акруговай камісіі Васняцоўскай выбарчай акругі № 95 Мінска, якая адмовіла ў рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты быламу міністру абароны П.Казлоўскаму. Ён балаціраваўся адразу двума спосабамі: шляхам партыйнага вылучэння ад АГП і зборам подпісаў.

У першым выпадку прычынай для адмовы стала адсутнасць на тэрыторыі названай выбарчай акругі пярвічнай арганізацыі АГП. Прычым названая партарганізацыя была знятая з уліку ўпраўленнем юстыцыі Мінгарвыканкама 10 верасня 2004 года пасля таго, як адбыўся з'езд АГП, на якім П.Казлоўскі быў вылучаны кандыдатам у дэпутаты. Што накont другога варыянту вылучэння, то ў прэтэндэнта было выяўлена 17,7% несапраўдных подпісаў пры максімальна дапушчальным браку ў 15%.

Цяпер прэтэндэнт на дэпутацкі мандат мае права абскардзіць рашэнне ЦВК у Вярхоўным судзе.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

ГЛАС НАРОДА

## ...Тогда и Ермошина не поможет

17 октября в нашей стране будет решаться вопрос, быть или не быть диктатуре. Референдум — это не выборы, и если установить жесткий контроль, то тогда и Ермошина не сможет помочь А.Г.Лукашенко.

Для этого необходимо:

1.С открытием выборов зафиксировать количество списочного состава избирателей, так как на прошедших выборах происходило уменьшение количественного состава даже в день выборов, что являлось грубейшим нарушением.

2.На каждом участке должен быть постоянный контроль за урнами, чтобы не вбросили 600 и более бюллетеней.

3.Не вижу необходимости отвлекать на контроль за тем, сколько пришло избирателей, если будет контроль за урнами.

4.В сельской местности на каждом участке должно быть как минимум два наблюдателя, так как примерно 30% голосует на избирательном участке, а остальных объезжают по домам с переносной урной. Вот за этой урной должен все время следовать наблюдатель, чтобы переносную урну не завезли в лес и не устроили фейерверк.

5.И главное. Если даже не удалось проконтролировать ход выборов на всех участках, то на каждом участке должен присутствовать наблюдатель при объявлении председателем участковой комиссии результатов выборов. Тогда каждый наблюдатель даст информацию в Центр, и в понедельник уже будут известны результаты выборов, которые необходимо опубликовать в газетах во вторник, по каждому участку, району, городу, области страны.

Это не позволит председателям районных комиссий записать результат "2+2=5", а Ермошиной по стране — "3+3=10".

**Николай КЛУМОВ, житель Минска.**

РЭПЛІКА

## Свінства...

*Як паведаміла прэс-служба Аб'яднанай грамадзянскай партыі, ануліравана рэгістрацыя кандыдата ў дэпутаты ў Палату прадстаўнікоў па Палескай акрузе №45 актывіста АГП Мікалая Гаўрыленкі. Іронія лёсу: Мікалая абвінавацілі ў тым, што ён "увёў у зман акруговую камісію, паказаўшы ў дэкларацыі даход ад продажу свіней, выгадаваных у прысядзібнай гаспадарцы". А мясцовы сельсавет у сваю чаргу падаў у акруговую камісію даведку пра тое, што свінні кандыдата ў дэпутаты Мікалая Гаўрыленкі "не былі на ўліку ў сельсавеце". Смех у зале...*



На пасяджэнні акруговай камісіі разам з Мікалаем Гаўрыленкам, як перадала Радыё Свабода, прысутнічаў кіраўнік абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Леанід Арлоў. Ён паведаміў, што **"сельскі Савет два разы на год абходзіць прыватныя гаспадаркі і ўсё перапісвае. Летам, — хто, колькі і чаго пасеяў - бульбы, жыта, кукурузы. Зімою — у каго і якая жывёла ёсць. Але яны гэтага не рабілі, хаця павінны былі зрабіць. Весці ўлік, усю гэтую статыстыку. Ну і далі статыстыку, што ў яго няма свіней. На падставе гэтага свінства Гаўрыленку знялі з рэгістрацыі".**

Не ведаю, як вам, паважаныя сябры, а мне часам здаецца, што на свінства захварэла не гаспадарка партыйнага актывіста і былога ўжо кандыдата ў дэпутаты сп.Гаўрыленкі, паталагічная форма гэтай хваробы ахапіла ўсё ведамства Лідзіі Ярмошынай.

Так і хочацца спытаць: спадары члены выбарчых камісій (апускаю слова "шаноўныя"), з якога яшчэ пальца вы будзеце высмоктваць нагоды для барацьбы з дэмпрэтэндэнтамі на дэпутацкі мандат? Задумаемся: кандыдат ад АГП, нягледзячы на хілую працу свайго сельсавета, які не зарэгістраваў свіней у яго гаспадарцы, адкрыта і чэсна паведаміў выбарчай камісіі пра даходы ад продажу "хрушак". Дык за што вы яго здымаеце з выбарчай гонкі? Можа, наадварот, каго-сьці з сельсавета трэба зняць за дрэнную працу?

Цяпер у Палескай выбарчай акрузе застаўся толькі адзін прэтэндэнт у "палатку". Гэта — дзейны дэпутат, вядомы ўсім палымяны апалагет Лукашэнкі Сяргей Касцян. Каментарыі, як кажуць, залішнія.

**Алесь СІЛІЧ.**

СТОЛИЧНЫЕ НОВОСТИ

## Купите фабрику

Первая попытка нынешним летом продать обувную фабрику в поселке Гатово под Минском потерпела фиаско. Покупателей не нашлось. Теперь организатор — столичный Центр реализации недвижимости — проводит повторный открытый аукцион. Он пройдет 28 сентября в Минске.

На этот раз цена имущественного комплекса, который включает в себя здание предприятия, склад, а также технологическое оборудование для производства обуви снижена на 20 процентов. С учетом налога на добавленную стоимость она составляет 684,28 миллиона рублей, сообщили корреспонденту агентства "Минск-Новости" в Центре.

## Дела сердечные

Минские ученые разработали новую методику диагностики заболеваний сердечно-сосудистой системы. Суть ее в снятии видеоряда кровеносных капилляров на сетчатке глаза. После обработки изображений получают статистические данные, по которым можно проанализировать состояние всей сердечно-сосудистой системы.

Для проведения необходимых расчетов создан образец компьютера, предварительные испытания которого прошли в Республиканском научно-практическом центре "Кардиология". Машина способна выполнять около десяти миллиардов операций в секунду. Вскоре планируется начать ее серийное производство.

## Кто строит жилье?

В этом году жилой фонд столицы должен расшириться на 739 тысяч квадратных метров общей площади возведенных домов. К 1 сентября комиссии уже подписали акты приема 467 тысяч "квадратов", или 63 процентов от годового задания. При этом за счет средств республиканского бюджета построено 7 тысяч квадратных метров жилья, за счет местных бюджетов — 41,7 тысячи, собственные средства организаций, включая кредиты, позволили ввести в эксплуатацию 54,3 тысячи, наконец, за счет средств населения, опять же включая полученные кредиты, возведено 364,1 тысячи квадратных метров жилья.

## Будет велотрек!

Министр спорта и туризма Юрий Сиваков объявил, что принято решение о строительстве в Минске велотрека. Он ничем не уступит велотреку, на котором прошли олимпийские соревнования в Афинах. Определено место, где появится новое спортивное сооружение, — улица Академическая. Уже разработан генеральный план строительства. Юрий Сиваков обещал, что с введением в строй велотрека тянуть не будут. Наталье Цилинской предложено стать директором нового спортивного сооружения.

**Агентство "Минск-Новости".**

## Христос Пургуридес возмущен награждением Дмитрия Павличенко

*Специальный докладчик Парламентской ассамблеи Совета Европы, автор доклада "Исчезнувшие люди в Беларуси" Христос Пургуридес обратился с письмом к Патриарху Московскому и всея Руси Алексию II. Христос Пургуридес выразил возмущение решением Алексия II наградить орденом Святого равноапостольного князя Владимира командира Специального отряда быстрого реагирования (СОБР) МВД Беларуси Дмитрия Павличенко. Командир СОБРа в докладе спецдокладчика Пургуридеса "Пропавшие люди в Беларуси" и специальной резолюции ПАСЕ назван одним из подозреваемых в похищении известных оппонентов режима Александра Лукашенко.*

Вот текст письма Христоса Пургуридеса к Алексию II.

Ваше Святейшество!



Из прессы я узнал, что по рекомендации Митрополита Минского Филарета Вы наградили Дмитрия Павличенко, командира Специального отряда быстрого реагирования (СОБР) МВД Беларуси, орденом Святого равноапостольного князя Владимира.

Как докладчик Парламентской ассамблеи Совета Европы по расследованию исчезновений нескольких известных оппонентов режима Лукашенко в Беларуси (г-на Захаренко, г-на Гончара, г-на Красовского и г-на Завадского), я пришел к заключению, что г-н Павличенко скорее всего был руководителем "эскадрона смерти", созданного по приказу тогдашнего секретаря Совета безопасности г-на Шеймана, который сейчас является прокурором Республики Беларусь, и г-на Сивакова, нынешнего министра спорта и туризма.

Я убежден, что на "эскадроне смерти" лежит ответственность за убийства вышеуказанных лиц. Парламентская ассамблея на апрельской сессии потребовала тщательного расследования в отношении подозреваемых, перечисленных в моем докладе (см. Резолюцию ассамблеи 1371 (2004) и Рекомендацию 1657 (2004)). К сожалению, такое расследование не было начато. Но из-за серьезных обвинений, выдвинутых Парламентской ассамблеей Совета Европы, г-ну Сивакову было публично отказано в посещении Олимпийских игр в Афинах, а белорусское правительство подверглось серьезной критике со стороны международного сообщества. Международное давление продолжает возрастать, и я убежден, что однажды виновные будут призваны к ответу.

В свете вышесказанного я шокирован известием о том, что столь уважаемый институт, как Белорусская Православная церковь, которая должна быть законодателем морали и веры для всей страны, наградила церковным орденом такого человека, как г-н Павличенко. Это является ужасным знаком не только для близких жертв "эскадрона смерти", но и для всего народа Беларуси.

Награждение Павличенко церковным орденом может быть интерпретировано как активная поддержка режима Лукашенко, вопреки усиливающейся международной критике за вероятные преступные деяния, и как оскорбление всех, кто был награжден орденом Святого равноапостольного князя Владимира, и прошу вас отменить решение о награждении г-на Павличенко орденом как можно быстрее.

История рассказывает, что во всей Европе церковные лидеры мужественно противостояли диктаторским режимам, заслужили любовь и верность людей на долгие годы даже после окончательного падения диктатуры. И, напротив, церкви, которые сотрудничали с режимами, или которым не хватало смелости защищать их жертвы, утратили поддержку народа.

Такое же письмо я отправил Митрополиту Филарету.

Ваше Святейшество, пожалуйста, примите заверения в моем глубочайшем почтении.

**Искренне Ваш,**

**Христос Пургуридес, докладчик ПАСЕ.**

ДВА МНЕНИЯ

## К 2010 году средняя зарплата в Беларуси будет 750 долларов

*Выступая в четверг перед студентами брестских вузов, Александр Лукашенко заявил, что в Беларуси реальные денежные доходы населения в 2003 году по сравнению с 1995 годом возросли в 2,6 раза. В течение первого полугодия 2004 года— на 13%, причем по всем регионам страны. При этом для сравнения он привел такие данные: в середине 90-х годов средняя заработная плата составляла 20—30долларов США, сегодня — 165. К концу года будет 195, а в 2005 году — 250 долларов. К 2010 году мы должны выйти на 750 долларов среднемесячной заработной платы. "Наша экономика не разграблена. Она в собственности государства. Страна практически не имеет внешних долгов. При этом мы открываем ворота для инвестиций. Крупнейшие предприятия акционированы — их можно купить, но за реальную стоимость", — подчеркнул белорусский лидер.*

***По сообщению БелТА.***

*Станислав БОГДАНКЕВИЧ,*
*глава Нацбанка Беларуси в 1991—1995 годах:*

## «В условиях гиперинфляции эти цифры ничего не стоят»

— В начале 90-х годов в Беларуси наблюдалась гиперинфляция, цены росли в 18—20 раз. Но как только в конце 1994 года Верховный Совет принял соответствующее постановление, и в стране была введена национальная валюта, уже в 1995 году белорусский рубль был стабилизирован. На протяжении всего 1995 года один доллар, насколько я помню, стоил 11.500 рублей. И в соответствии с этим в конце года средняя зарплата в долларовом эквиваленте достигла 125 долларов.

При этом зарплату всегда надо сравнивать с ценами. И учитывать тот факт, что за эти 10 лет доллар обесценился. Например, по отношению к евро почти на 40%. Если учесть все эти моменты, то реальный рост зарплаты в Беларуси составил не более 110%.

Кроме того, мы все помним, что в 1995 году однокомнатную квартиру в Минске можно было купить за 8—10 тысяч долларов, а сейчас ее не купишь и за 20 тысяч. Сегодня комната в квартире стоит от 8 до 15 тысяч долларов. Поэтому подобные сопоставления главы государства, мягко говоря, некорректны.



*Станислав Богданкевич сыну: "В этой жизни, Павел, нужно только выигрывать".*

Что касается зарплаты, то Лукашенко, избрав свою модель, привел Беларусь к тому, что мы безнадежно отстали от наших соседей. Например, Польша в середине 90-х была в долгах, как в шелках, показатели валового продукта и зарплаты в стране были ниже, чем в Беларуси. А сегодня, несмотря на то, что в определенной мере внешние долги у поляков остались, средняя зарплата в Польше составляет 600 долларов, пенсия — 200, национальный продукт на душу населения в два с лишним раза выше, чем в Беларуси.

Кто-то может возразить, что в Польше европейские цены. Но у нас они практически такие же, а цены на продукты даже выше европейских. Кроме того, годовая инфляция в Польше многие годы составляет менее 3%, а у нас за время правления Лукашенко инфляция ни разу не была ниже 24% за год.

Я полагаю, что если бы Беларусь выбрала демократическую и рыночную модель развития, а не авторитарную, то мы бы имели сегодня показатели не ниже, а то и выше польских. А если в нашей стране доллар будет все так же обесцениваться, то зарплату можно сделать и 750 долларов, а что толку?.. В условиях гиперинфляции эти цифры ничего не стоят.

Что касается внешнего долга Беларуси, то "Банковский вестник" опубликовал официальные данные — на 1 января 2004 года внешний долг Беларуси составлял 4,5 миллиарда долларов. Значит, чистый долг — это где-то 3,5 миллиарда. Внешний долг включает как долг правительства, так и долги резидентов — наших предприятий. И согласитесь, даже 3,5 миллиарда — совсем не мало. Другое дело, что Лукашенко, видимо, считает только правительственный долг. И он действительно небольшой, где-то порядка 700 миллионов долларов. Но то, что задолжали государственные заводы, ведь тоже надо возвращать...

Я бы посоветовал главе государства все же более реально смотреть на то, что происходит в стране, а не рисовать радужные картины и не заниматься самовосхвалением...

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ЖЫЦЦЁ ЯК ЯНО ЁСЦЬ

## Чаму рагулю вядуць на забой?

Успамінаю дзяцінства. Цёплы летні вечар, настоены на паху мурагу, копы якога квактухамі расселіся на абмежках, нагрэтага за дзень бульбоўніку і розных кветак, якіх у нашым агародчыку было вельмі шмат. Седзячы на ганку, я чую гукі засынаючага дня: недзе брэша сабака. Скрыпіць корба, пры дапамозе якой суседка цягне з калодзежа ваду, рыкае цяля. Але самы галоўны і радасны для мяне гук даносіцца з хлява, куды маці пайшла з даёнкай. Спачатку аб дно моцна цурчыць пахучае бялюткае малако. З кожнай хвілінай гукі становяцца цішэйшымі і я, стомленая работай і гульнямі, ужо амаль засынаючы, уяўляю, як у вядры пеніцца сырадой. Хутка маці прыйдзе ў хату, працэдзіць малако на чысцюткую марлю і дасць мне поўны кубачак гэтага пахучага дзіва. Я з асалодай буду ўдыхаць яго жыватворны водар, які кароўка за цэлы дзень сабрала з розных траў і зёлак, што растуць на лузе і ў лесе.

Малако ратавала ад голаду, а карова ў той час была нібы член сям'і. Страціць яе было вялікім горам. Памятаю, як на ўсю вёску галасіла мая цётка Марыя з дарослымі дочкамі, калі іхняя карова, ідучы з пашы, раптам упала і з яе рота паваліла пена. Збегліся людзі, але не далі рады...

Кароў у нас трымалі ўсе. Нават удовы бегалі з касой і граблямі па ваколіцы з надзеяй прыдбаць які лапік сена. Старая дзеўка Стэфанька, якая адзінока каратала век, але і тая трымала сваю рагулю да глыбокай старасці.

Калі з двара зводзілі карову, значыць, да гаспадара прыйшла бяда. Без яе не толькі двор пусцеў, але і хата неяк сірацела. Тады ўсе, у каго была добрая душа, неслі гаспадарам малако, бо ведалі, што без яго вельмі цяжка.

Цяпер без кароў застаюцца не асобныя двары, а цэлыя вёскі. І няхай жыццё лягчэйшае, чым пасля вайны, аднак селяніну без каровы дрэнна, бо ад яе не толькі малако, але і смятана, і масла, і тварог. У горад не наездзішся. Ды хіба там купіш такое?

У апошні час значна змяншыўся продаж лішкаў малака дзяржаве. Кажуць, што вяскоўцы збываюць каровы, бо не маюць сілы на іх нарыхтаваць сена. Ды і пасвіць трэба. Гэтая версія ляжыць на паверхні. Але ёсць і другая прычына: селяніну за малако мала плацяць. Закупачная цана — 330 рублёў за літр. Калі ж на перапрацоўчых заводах з яго выціснуць усё, што можна, то ў магазіне за беленькую вадзічку мы плацім 670 рублёў. А вось каб вясковец мог атрымаць за літр паўнацэннага сырадою хаця б 500 рублёў, ён і яго дзеці, што жывуць у гарадах, моцна задумаліся б, весці сваю рагулю на забой ці не. Ад добрай каровы добры гаспадар у дзень мог бы здаваць па 20 літраў малака. І меў бы дзесяць тысяч рублёў. А за месяц 300 тысяч. Такія грошы сённяшняму селяніну і не сніліся. Гэта быў бы добры прыварак да пенсіі. Тады і дзеці з унукамі ў выхадныя дні кінуліся б у вёску, каб нарыхтаваць сена і адпасвіць чаргу, бо мелі б матэрыяльную зацікаўленасць, якая з'яўляецца асновай у гэтай справе. А так многія гарадскія дзеці кажуць: "Прадавай ты, тата, карову і не душыся з гэтым сенам. Мы табе згушчанкі прывязём". І старому няма куды дзявацца, хоць душа вельмі баліць па кароўцы.

Не трэба быць вялікім матэматыкам, каб падлічыць: за адзін літр мінеральнай вады "Мінская" мы плацім амаль 700 рублёў! Гэта ў два разы больш, чым плацяць селяніну за малако. Дык вада ж з зямлі сама цячэ, а колькі трэба папрацаваць чалавеку, каб здабыць малако! Гэтага не ведае толькі той, хто не жыў у вёсцы, хто не пацеў на сенажаці, не карміў авадней, пасучы кароўку.

Бутэлька самага таннага віна каштуе столькі, колькі пяць літраў малака (і гэта ўлічваючы тое, што віно ў нас не можа купіць толькі апошні гультай). А за бутэльку звычайнай гарэлкі трэба прадаць ажно 15 літраў малака! І ніякага дзіва няма ў тым, што многія вяскоўцы цяпер сталі часта ўжываць "малако ад шалёнай каровы" (так яны называюць спіртное). П'юць у вёсках не ад разбэшчанасці ці гультайства, а ад безвыходнасці. Зарплату, бывае, затрымліваюць. І колькі тае зарплаты!

Адзін фермер наняў на работу вясковых выпівох і даў ім добра зарабіць. Якое ж было яго здзіўленне, калі хлопцы перасталі піць. Так што яшчэ не ўсё страчана. Трэба зацікавіць людзей матэрыяльна, як некалі казалі, павярнуцца да іх тварам, і яны пакажуць, што здольны на добрыя справы.

Яшчэ гады тры таму па нашай вуліцы ганялі статак "гарадскіх" кароў, у якім налічвалася больш за чатыры дзесяткі галоў. Усе, хто жыў на ўскрайку і меў хлевушок, імкнуліся трымаць карову. Цяпер гэта ўжо не статак, а невялічкі гурт, у якім усяго чатыры рагатыя галавы. Пры тым, што ў горадзе малако разбіраюць то суседзі, то знаёмыя. Але ж даражэй, як у магазіне, за яго не возьмеш. Гаспадару нявыгадна. Да таго ж яшчэ былі праблемы з пашай. І таму вядуць рагуляў на забой. Сірацеюць двары. Баліць душа. Але другога выйсця пакуль няма.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

